# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1965

Студзень-Люты

Год XIII

№ 1

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1964 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвертаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIII January—February № 1 (88)**
**1965**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE., LONDON, N. 12
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XIII СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ 1965 № 1 (88)

# Народныя мовы у сьвятынях

Справа народнай мовы ў каталіцкім набажэнстве стала вельмі гарачай. Дасюль лацінская мова так запанавала і ўкаранілася, што думалі яе ўтрымаць . . . да канца сьвету. Аж раптам на Ватыканскім Саборы шмат краёў і народаў пачалі дамагацца народнай мовы і Сабор вялікай перавагай галасоў на



*Друя над Дзьвіною. Капліца Сьв. Антоняга.*

гэта згадзіўся, а Папа Павал VI-ы ўжо пастанову зацьвердзіў.

Цікава, як народы гэтую справу прынялі і як уводзяць яе ў жыцьцё?

Весткі са сьвету паказваюць, што Францыя пасьпешна перайшла на народную мову, хоць французская мова мае карэньні ў лаціне. Амэрыка прыняла рэформу няроўна: некаторыя часткі ацягваюцца і сумляваюцца.

Англія прыймае, хоць з цяжкім сэрцам — дзеля таго, што праз ангельскую мову каталіцкая Царква надта зьбліжаецца да англіканскай. А гісторыя сьведчыць, колькі каталікі перацярпелі ад ангельскага ўраду і ад англіканскай Царквы ў працягу XVI-га, XVII-га і XVIII-га веку крывавага прасьледу.

Хоць цяпер пануе ў Англіі поўная свабода веры, то аднак патомкі мучаных каталікоў ня могуць забыцца мінулага.

У Нямеччыне таксама не сьпяшаюць пакінуць лаціну. Тут гісторыя сьведчыць аб страшэнных войнах і доўгай нязгодзе між каталікамі і пратэстантамі: а цяпер трэба ісьці да зьбліжэньня і злучэньня пасьля Сабору...

Будуць таксама труднасьці і жаль па лацінскай мове ў шмат якіх краёх Азіі і Афрыкі. У Афрыцы каталіцтва зрабіла вялізны поступ, а народныя мовы так яшчэ слабыя, што, дастаўшы волю, некаторыя краі яшчэ трымаюцца моваў даўнейшых акупантаў. У некаторых краёх ёсьць па некалька ўрадавых моваў і пануе анальфабэтызм.

Аднак гэтыя труднасьці народных моваў — справа часу. У новых незалежных краёх нарастае свая маладая інтэлігенцыя, якая стаіць за поўную так-жа культурною незалежнасьць. У гэтым такжа Каталіцкая Царква мае важны абавязак памагаць новым народам будаваць іхную культуру і шчасьлівую будучыню.

Лаціна, значыць, астаецца толькі шаноўнай памяткай, як і старая грэцкая мова.

Для нас, Беларусаў, важнае, што будзе з нашымі каталікамі?

Ведама, што ў Злучаных Штатах Амэрыкі і ў Канадзе дасюль ішла паміж эмігрантамі моцная «амэрыканізацыя». Нават старыя народы (немцы, французы, італьянцы, гішпанцы . . .) трацяць там сваю эміграцыю, якая ўліваецца ў мора ангельскай мовы.

Шмат нацыянальных парахвіяў ўжо страцілі свой народны характар і сталі амэрыканскімі. Моладзь не гаворыць з бацькамі іх роднай мовай і ахвотна закладае свае сем'і ўжо ў амэрыканскім духу. Бацькі астаюцца сумныя ў старане. Трэба сказаць, што самі былі вінаваты, бо самі гаварылі да іх па ангельску . . .

Беларусы каталікі, якія ня мелі там сваіх парахвіяў, цяпер ня могуць чакаць таго, што чужое духавенства ўвядзе беларускую мову ў сьвятыні . . . значыць, праз ангельскую мову амэрыканізацыя яшчэ больш узмоцніцца.

Мы, старая эміграцыя і старэйшыя людзі, павінны ясна ацаніць гэтую сытуацыю і сьмела глянуць праўдзе ў вочы. Найперш, справа нашых каталікоў — гэта ёсьць справа нашая агульная, значыць, датычыць і праваслаўных. Каталікі не павінны гневацца за крытыку: трэба нам супольна радзіцца ў нашых патрэбах і труднасьцях. Ніхто няхай не падумае сказаць: «Як твая хата будзе гарэць, дык і мне можна будзе рукі пагрэць».

Мы можам розьніцца ў поглядах рэлігійных, палітычных і інш., але нацыянальна мы — адзін народ і ніхто нас бараніць ня будзе, калі мы будзем сварыцца.

Адна з найпільнейшых агульных справаў — нам трэба выхоўваць сваё нацыянальнае духавенства, так каталіком як праваслаўным. Зь вялікім болем сэрца трэба прызнацца, што Беларусы ў Амэрыцы не пайшлі за прыкладам другіх народаў. Нават малыя народы (Летувісы, Славакі, Харваты і інш.) мелі дзесяткі і сотні сваіх каталіцкіх парахвіяў, а Беларусы — аніводнай! І ў тых народаў пры парахвіях групаваліся свае арганізацыі, якія баранілі інтарэсы сваіх суродзічаў і працавалі культурна. А Беларусы жылі самапас — незарганізаваныя і проста марнаваліся эканамічна і культурна — аж затраціліся ў падонках бяды і нясьведамасьці.

Гэтаксама і праваслаўныя: значны процант праваслаўных падаліся бязбожнай агітацыі, а нат' паехалі ў Саюз . . . Прытым-жа праваслаўным лягчэй арганізаваць парахвіі як каталіком, бо праваслаўныя маюць сваю незалежную герархію, і самых праваслаўных больш, і на іх ня мае ўплыву каталіцкае асяродзьдзе ангельскае, польскае і інш.

Калі каталікі вызбываюцца ў набажэнстве лацінскай мовы, дык і праваслаўным трэба адарвацца ад славянскай на карысьць беларускай, каб раз на заўсёды парваць прэтэнзіі расейцаў; як і каталіком трэба парваць з польскай мовай у сьвятынях і з іхнымі песьнямі, пацерамі і інш.

*

Што сказаць аб народнай мове ў Савецкім Саюзе? Ведама, што — пры тэорэтычнай свабодзе рэлігіі — там пануе жорсткі прасьлед. І ведама, што пасьля крывой польскай палітыкі на Беларусі, прыйшла сьляпая, неразумная палітыка бязбожнікаў, якая — насупраць усякай лёгіцы і праўдзе — часамі сходзіцца з тактыкай польскай у прыгнёце Беларусаў. Трэба ўспомніць арышты нашых сьвятароў; не дапускаюць нашых адпраўляць Божыя службы ў нармальных парахвіях, і — выглядае, што польскую мову ў сьвятынях лепш церпяць як беларускую. Гэтым аказваецца падступная камбінацыя, каб беларуская моладзь ня мела нахілу да каталіцкіх сьвятыняў, калі там будзе польская мова . . .

Словам, ужо некалька вякоў пануе як-бы змова суседзяў — і ўрадаў і духавенства — супраць нашай Бацькаўшчыны: нам трэба напружыць усе сілы і энэргію, каб — з Божай помаччу — ня дацца сьпіхнуць у прорву небыцьця!



ВЕРА РЫЧ

# Раньняя сьвятыня на Беларусі

**(Паводля Ісляндзкай Сагі)**

Сярод розных вестак аб беларускіх гарадах і землях ў ісляндскіх сагах,[1] найбольш цікавай бяз сумлеву зьяўляецца вестка аб раньняй царкве бліз Полацку і аб магіле пахаванага там ісляндца, якога мясцовае насельніцтва ўважала за сьвятога.

Захавалася дасюль перадусім Kristnisaga ў расказе аб Хросьце Ісляндыі. Расказ гэты ведамы нам з рукапіснага зборніку Hauksbók, складзенага на жаданьне Гаўкра, сына Эрленда,[2] які праўдападобна напісаў прынамсь частку яго ўласнаручна.[3] Гаўкр (?—1334) быў знатным ісляндцам і займаў важныя становішчы ў Ісляндыі і Нарвэгіі. Зборнік адлюстроўвае ягоныя шырокія зацікаўленьні. Там можна знайсьці усё: гісторыю, геаграфію, новую арытмэтыку з арабскімі лікамі, астраномію і філязофію. Галоўную частку аднак яго складаюць расказы аб засяленьні і хросьце Ісляндыі. Апошні расказ быў складзены ў дайшоўшай да нас форме праўдападобна ў канцы 13-га стаг. з ранейшых жаролаў, сяньня загінуўшых.[4]

Крыстнісага кажа, што сярод першых апосталаў Хрысьціянства ў Ісляндыі былі Торвальд, сын Кодрана (які прыняў Хрост у часе свайго побыту ў Саксоніі) і, крыху пазьней, Стэфнір, сын Торгільса. Выглядае, што іхнія стараньні спярша ня прынесьлі жаданых вынікаў і абодва яны павінны былі пакінуць Ісляндыю. Некалькі год пасьля аднак Хрысьціянства там сталася афіцыяльнай рэлігіяй. Але паслухаем цяпер, што кажа нам Крыстнісага (разьдзел 12):

«Лета, калі Хрысьціянства было зацьверджанае правам у Ісляндыі, было 1000 зімаў[5] ад нараджэньня Госпада Нашага Ісуса Хрыста. У тым самым годзе кароль Оляф[6] зьнік з Доўгай зьмяі,[7] на поўдзень ад Свольду, у чацьвёрты дзень перад ідэс (г. зн. 13-га) верасьня, панаваўшы ў Нарвэгіі пяць зімаў. Пасьля яго пачаў панаваць Эйрэк, сын Ярля Гакона. Пасьля таго, як прапаў Оляф, Торвальд сын Кодрана і Стэжнір сын Торгільса спаткаліся і паехалі разам у Ерузалім, а адтуль у Канстантынопаль (Міклягард) і ў Кіеў (Кайнугард) на ўсход па Дняпры. Торвальд памёр на Русі (Рузія), недалёка ад Полацку (Пальтэскія) і ён там пахаваны на гары пры царкве сьвятога Яна Хрысьціцеля і людзі лічуць яго сьвятым. Вось што кажа аб ім Бранд Вялікі Падарожнік:

*Я прыйшоў туды,*
*Дзе Торвальду*
*Сыну Кодрана*
*Хрыстос дараваў супакой.*
*Там яго гроб*
*На высокай гары*
*У Дрофне*
*Пры царкве сьвятога Яна.*[8]

Стэжнір паехаў на поўнач у Данію . . .» і т. д.

---

[1] Першы, хто зьвярнуў увагу на ісляндзкія сагі, як жаролы гісторыі Усходняй Эўропы, быў беларус па паходжаньню Язэп Сенькоўскі ў сваім артыкуле «Ісляндзкія сагі» у І-шым томе «Библиотеки для чтения» (1834), якой ён быў сам рэдактарам.

[2] Ісляндзкія назовы людзей складаюцца звычайна з собскіх імёнаў і імёнаў па бацьку. Прозьвішчы, нават сяньня, бываюць вельмі рэдкімі.

[3] Адносна паўстаньня Hauksbók гл. прадмову, якую напісаў Jon Helgason у Manuscripta Islandica, vol. 5, Hauksbók, Copenhagen 1960.

[4] Паводля Jón Johanneson гэтая сага была, праўдападобна, напісана Стурлам сынам Торда. Гл. Gerdir Landnámabókar 1961, bač. 36—37, 70—71, 175—202.

[5] Гады ў Ісляндыі abлічаліся паводля «зімаў». З другога боку Хрысьціянства, як правільна гаворыцца ў расказе, было ўведзена летам, бо яно было зацьверджанае на вечы (Althingi), якое зьбіралася летнім часам.

[6] Оляф сын Трыгві. Ён прыняў хрост на абтоках Сцылі (на паўднёвы захад ад Англіі) і быў такім чынам першым хрысьціянскім каралём Нарвэгіі.

[7] Так называўся слаўны карабель Оляфа. Пасьля бітвы ля Свольду, дзе яго перамог Эйрык сын Гакона, Оляф выскачыў з карабля. Далейшы лёс ягоны няведамы, хоць хадзілі чуткі, што Оляф выратаваўся і скончыў сваё жыцьцё ў манастыры ў Грэцыі. Гл. G. Turville-Petre, Origins of Icelandic Literature, Oxford 1953, pp. 194—195.

[8] Для цікавасьці вось лацінскі тэкст верша Бранда, з паралельнага ісляндзка-лацінскага выданьня зробленага Арнамагнейскай Камісіяй у 1773 г.:

Veni in locum
Ubi Thorvalldo
Filio Kodranis
Christus quietum indulget.
Illic sepultus est
In cacumine montis
Cuiusdem in Drapne
Ad templum Johannis.

Больш падробныя весткі аб усім гэтым дае нам Таттр (г. зн. кароткая сага) аб Торвальдзе Вялікім Падарожніку. Гэты расказ захаваўся ў шматлікіх сьпісках (якіх мы ведаем толькі клясыфікацыйныя нумары),[9] а таксама, ў ведамым Flateyarbok, аб якім варта было-б напісаць асобны артыкул. У расказе даецца Торвальду крыху пераўвялічаная рэпутацыя сьвятасьці і папулярнасьці. Так напрыклад там гаворыцца, што Торвальд быў духовым дараднікам бізантыйскага імпаратара. Адным словам яго спаткаў лёс шматлікіх іншых вялікіх людзей старажытнасьці, вакол якіх пасьля іхняй сьмерці пачалі нарастаць лягенды. Аб тым, што нас тут цікавіць, Таттр кажа, што Торвальд збудаваў манастыр пры «саборы» сьв. Яна (зноў пераўвялічаньне: у Kristnisaga — гэта была звычайная царква) і сам памёр там манахам. У расказе гаворыцца, што манастыр «называецца манастыром Торвальда» і што ён стаіць «пад высокай гарой Дрофн».[10]

Трэба тут адцеміць, што, акрамя ісляндзкіх сагаў, мы нідзе больш не спатыкаем вестак аб гробе Торвальда бліз Полацку і аб царкве сьв. Яна Хрысьціцеля. Гэта аднак ня ёсьць доказам непраўдзівасьці ўсей гісторыі. Кіеўскія летапісы былі ў агульным варожа настаўленыя да Полацку і ёсьць даныя думаць, што прыхільныя да Полацку весткі ў Першапачатковым Летапісе былі зьнішчаныя.[11] Полацкія летапісы, якія захоўваліся пры саборы сьв. Сафіі, нажаль не дайшлі да нас.[12] Нам няведамы ўзгорак, ці «гара», Дрофн каля Полацку. Трэба аднак мець на ўвеце, што словы «недалёка» і «высокі» ёсьць вельмі адносныя. Спробы знайсьці славянскае значэньне назову Дрофн таксама не далі да гэтага часу жаданых вынікаў.[13]

Ёсьць аднак адна рэч, якая, на маю думку, паказвае праўдзівасьць расказу — менавіта тое, што царква насіла імя сьвятога Яна Хрысьціцеля. Сьвята Яна Хрысьціцеля прыпадае амаль у той самы час, што і старое паганскае сьвята Купалы, вельмі пашыранае сярод беларускіх плямёнаў. Ёсьць добра ведамым, што місіянэры стараліся, дзе маглі, «ахрысьціць» паганскія сьвяты і звычаі, надаючы ім новы хрысьціянскі зьмест. Гэта якраз напэўна здарылася з сьвятам Купалы. Дзеля гэтага нас не павінна дзівіць тое, што сьв. Ян Хрысьціцель быў вельмі папулярным сьвятым ад пачатку на Беларусі і што ўжо ў першых гадох хрысьціянства мы там спатыкаем царкву, якая носіць ягонае імя. Хоць цяпер усе іншыя весткі аб ёй прапалі, як і загінула таксама магіла Торвальда, мы павінны быць удзячныя, што ў ісляндзкіх сагах захаваліся хоць нейкія весткі, якія адносяцца да самых раньніх часоў Хрысьціянства на Беларусі.

---

[9] Вось нумары гэтых рукапісаў у выданьні Арнамагнейскай Камісіі: A. M. фаліял 61, 53, 54 і 552 (4-то). Сюды таксама трэба залічыць і A. M. 62, які аднак, як і Flateyarbók, розьніцца крыху ад папярэдніх.

[10] A. M. 62 і Flateyarbók падаюць расказ у крыху скарочаным відзе і прапускаюць назоў мясцовасьці, дзе стаяў манастыр. Усе іншыя падробнасьці аднак (падарожжа у Канстантынопаль, блізкасьць да імпаратара, залажэньне манастыра і сьмерць) там знаходзяцца.

[11] Гл. A. Von Reutz. „Eymunder Saga", Dorpater Jahrbuch für Literatur, Statistik und Kunst. 1834, pp. 104—106, дзе аўтар падзрае пазьнейшае скарачэньне Летапісу там, дзе гаворыцца аб барацьбе Брачыслава Полацкага з Кіевам (1016–1031).

[12] Гл. В. І. Іконніков, Опыт Русской Історыёграфіі, том II, частка I, Кіеў 1908, бач. 535. Гэты аўтар уважае, што полацкія летапісы былі зьнішчаныя палякамі ў 1579 г. у часе вайны супроць Масквы. Магчыма аднак, што яны згінулі далёка раней, у часе пажару ў 1440 г.

[13] Праблема ўскладняецца тым, што ў некаторых рукапісах назоў мясцовасьці падаецца як Drǫfn, а ў іншых як Drǫpn. Калі f ёсьць правідловым, дык гэта адказвала-б гуку *в* у першапачатковым славянскім назове. У ісляндзкай мове карэнныя галосныя назоўнікаў мяняюцца ў залежнасьці ад склону і праўдападобна гук *a* давальнага склону Drafni зьяўляецца галосным гукам славянскага арыгіналу.

# Беларуская гравюра ў дрэве
# (XVI – XVII Стаг.)

Увага Рэдакцыі: ў «Божым Шляхам» пачынаем даваць здымкі зь беларускай найстарэйшай гравюры ў друку: абразкі ўзятыя з Бібліі Старога Запавету ў перакладзе Дохтара Пранцішка Скарыны, адзін паасобнік якой знайходзіцца у British Museum у Лёндане.

Пранцішак Скарына быў ня толькі «Бацькам беларускага друку», але і першым майстрам гравюры на Беларусі. Мастацкі ўзровень ягоных твораў ёсьць вельмі высокі ў параўнаньні з творамі ягоных заходня-эўрапэйскіх сучасьнікаў.

Пэрспэктыва Скарыны не заўсёды дакладная, аднак гравюры поўныя маляўнічых падрабязнасьцяў дый жывога мясцовага колеру. Ягоная БІБЛІЯ — галоўны твор — друкавалася ў Празе ў 1517—1519 г. і ў Вільні ў 1524—1530 г.

ЦАРЬСТВЪ :~ РДІ :

Царь Саломон ставит храм г(оспо)дү богү въ Ерүсалиме



ТРЕТИИ КНИГИ ЦАРЬСТВЪ ПОЧИНАЮТЬ СЯ • ЗЪПОЛНЕ ВЫЛОЖЕНЫ НАРҮСЬКИИ ЯЗЫКЪ • ДОКТОРОМЪ ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНИНЫМЪ СЫНОМЪ СПОЛОЦЬКА :~

*Салямон будуе Госпадню сьвятыню. Ягоныя словы запісаны ў III кнізе Царств. 5, 17-19:*

*— Я маю намер збудаваць дом імяні Госпада, майго Бога, як сказаў Гасподзь Давіду, майму айцу, кажучы:*

*«Сын твой, якога Я пасаджу замест цябе на твой пасад, ён збудуе дом імяні Майму . . . »*

*Цар Давід ня мог будаваць Божага дому «дзеля ворагаў, якія яго акружалі . . . »*

*Цікава выглядаюць роботнікі пры будове, іхныя прылады і таксама вопратка Салямона і іншых прысутных.*

*Стыль сьвятыні мае падабенства да гатыцкага: зьвяртаюць на сябе ўвагу лукі падпораў, характэрныя да сярэднявяковай эўрапэйскай архітэктуры.*

ЦАРЬСТВЪ :~ ЗЕ :

Царь Д(а)в(и)дъ игРАеть въгүсле неса Кивотъ г(оспо)д(е)нь: Царицаже Михоль вида и погорде и бе неплодна :



ВТОРЫИ КНИГИ ЦАРЬСТВЪ ПОЧИНАЮТЬ СЯ • ЗЪПОЛНЕ ВЫЛОЖЕНЫ НАРҮСЬКИИ ЯЗЫКЪ • ДОКТОРОМЪ ФРАНЦИСКОМЪ СКОРИНИНЫМЪ СЫНОМЪ СПОЛОЦЬКА :~

*Цар Давід грае на гусьлях і танцуе перад Скіньніяй Старога Запавету падчас пераносу яе ў Ерузалім. У акне жонка яго Міхоль глядзіць згоршаная на мужа: затое «ня было дзяцей у Міхолі да дня яе сьмерці» (II Царств: 6, 15-23).*

*На мурох відаць гэрб самога Скарыны. Архітэктура будынкаў і крой адзежы асабліва цікавыя. На абразіку бачым, што Скарына меў на ўвазе найдрабнейшыя дэталі: на сцэне быццам жывыя людзі. Дый у тыя часы друкарства толькі пачыналася, значыць, заслугі Пр. Скарыны для беларускай культуры вельмі вялікія.*

*Скарына жыў у 1486—1551 (дата прыблізная).*

*а. Я. Гэрмановіч*

# Мае прыяцелі: Зэнон Якуць

Часам жыцьцё любіць жартаваць зь людзьмі, а прытым жартаваць загадкава і балюча.

У 1912—13 годзе ў Духоўнай Сэмінарыі ў Вільні вучыўся мой малодшы калега Зэнон Якуць. Цікавая фігура: высокага росту і з высака стаячымі валасамі, тоненькі нязвычайна, цыбаты, але даволі зграбны. І яшчэ цікавы тым, што меў рэдкае імя і фамілію — Зэнон Якуць. Ужо прайшло гэтулькі гадоў, а ягоная фігура і сымпатычная ўсьмешка так і рысуецца перад маімі вачамі!

Не прабыўшы двух гадоў, ён чамусьці выступіў з сэмінарыі.

І вось пасьля дзесяці гадоў я даведаўся, што ён недзе памёр. Хоць ня было ў нас з ім ніякай сувязі, аднак мне зрабілася яго шкода.

Аж у 1923 г. я, пераехаўшы ў Дзісьненскі павет у мястэчка Лужкі, чую, што у 30-ці кілёмэтрах ад мяне, ў мяст. Шаркаўшчына ёсьць малады пробашч... Зэнон Якуць! Я здумеўся: думаю — немагчыма, каб быў той самы.

Аб гэтым Якуцю прышоў да мяне ўжо розгалас, што ён — беларус і што чалавек дзейны, добры прамоўца, спавядальнік і г. д. — усё самае найлепшае. Добра! Я-ж гэта — дай — запрасіў яго летам на фэст, а ён — шусь — і прыехаў да мяне.

Аказалася, што слава яго ня была пустая: ён сказаў такое казаньне па беларуску, што на доўга асталося ў людзей у памяці. Дый спавядаў людзей працавіта і падчас абеду быў весялун, што ўсім дапаў да сэрца. А я так быў рады, «Што Лявоны у нас не пазводзяцца!» як пяецца ў беларускай песьні.

Мы зь ім падружылі ў адзін міг і на жыцьцё і... на сьмерць!

*

Кажу яму: — Ці ты ня той, што быў са мною ў Сэмінарыі?

Дый сам бачу, што ня той — і росту сярэдняга, і фігура нармальная і гады ня тыя.

Ён кажа: «Я таго Якуця і ня бачыў ніколі і нічога аб ім ня ведаю...»

«Ну, няхай!» думаю сабе. Бываюць-жа супадзеньні...

Мне, праўда, трэба было аддаць візыт новаму Зэнону Якуцю, але я быў так заняты, праца пры рамонце касьцёла была такая наглая, што я ўсё адкладаў і зацягнуў да зімы 1923 г.

Аж ужо ў пачатку 1924 г. я даведаўся, што Якуць захварэў, але мне ня думалася, што ён цяжка хворы. І вось каля запустаў (ня помню добра даты) аднойчы прыяжджае да мяне ксёндз з Задарожа, Рамэйка, і кажа:

— Я еду ў Шаркаўшчыну — адведаць хворага Якуця. Паедзем разам!

— Ведаеш — кажу — гэта непрактычна: ты едзь цяпер. Там — ён хворы і сам адзін. Ты там у яго пабудзеш і ў парахвіі заступіш, а пасьля я цябе падмяню і таксама буду заступаць хворага.

Добра. Рамэйка паехаў — аж праз пару дзён шле мне тэлеграму:

«Якуць памёр!»

Я скарэй еду — хутка будзе й пахаваньне. Божа мой, як усё скора наляцела! Вось і мой рэвізыт: знайшоў гаспадара лежачага. Ён яшчэ не напрацаваўся, а ўжо лёг на «вечны адпачынак».

Я так перажываў, што быў як поўпрытомны. Сабралася нас 11 сьвятароў, будзем начаваць, а заўтра пахаваньне. Парадак вядзе Кс. Рамэйка, бо дзекан моцна незарадны. Усе выбралі сабе месца спаць, толькі я адзін астаўся бяз месца і Рамэйка мне дае ложка, на якім памёр Якуць, бо яго ўжо палажылі ў труну і занесьлі да касьцёла. Усе калегі паглядаюць на мяне; а я ясна разумею, што кожны з іх цешыцца, што яго не кладуць на ложку нябошчыка.

Добра! Не спрачаюся: думаю — можа прысьніцца?

Яшчэ вечарам плянуем праграму пахаваньня: Дзекан сам цэлебруе і скажа пару слоў над магілай. Казаньне на Літургіі будзе гаварыць Кс. др. Ільдэфонс Бобіч — па польску.

— Трэба, каб было і беларускае казаньне, — кажа Рамэйка: — Якуць наш родны беларус. Ён сам тут гаварыў па беларуску, дык стыдна было-б, каб па ім ніхто не сказаў панашаму!

Усе згадзіліся, што трэба і па беларуску... Толькі пытаньне, хто будзе гаварыць?

— Ведама — ты! — кажа на мяне Рамэйка.

— Чаму, «ведама — я?» Ты тут — паважнейшы: цябе ўсе знаюць і ты яго прыгатаваў да сьмерці . . . А я нябошчыка ледзь нядаўна пазнаў і я тут новы . . .

— Няма чаго спрачацца! — падняў голас Рамэйка: — мусіш гаварыць і справа скончаная . . .

Я меў усе рацыі, каб не гаварыць, але з Францісём Рамэйкам нічога не паможа: ён усёроўна паставіць на сваім, дык я моўчкі згадзіўся.

Пахароны адбываліся вельмі паважна і ўрачыста. Народу сабралася маса — паўнюсенькі вялікі касьцёл! У прэзьбітэрыі былі, апрача нашых, два праваслаўныя сьвятары.

— Калі мне гаварыць? — пытаюся Рамэйку.

— Гавары, калі хочаш!

Пытаюся дзекана, але ён нешта забарматаў і нічога не адказаў. Дык пастанаўляю сам: Кс. Бобіч будзе гаварыць на Літургіі, а калі ён скончыць — я пайду на амбонію. Толькі-ж, што я пасьля яго скажу? Трэба мне ўважна адслухаць яго прамову, каб не паўтараць таго самага.

Слухаю. Бобіч прамоўца паважны: сам высокага росту, магутнай фігуры, голас — ерыхонская труба, пастава ўладарная. Прытым ён — дохтар філязофіі, ведамы тут усім навокал, бо ў суседняй парахвіі радзіўся, ён пісьменнік слаўны . . . Гаварыў разважна і ясна: вылічыў заслугі і працу Зэнона Якуця; выказаў выдатныя цноты нябошчыка, пачынаючы ад маладых яго гадоў . . . Словам, усё выказаў дакладна і ўзбудзіў пракананьне ў парахвіян, што панесьлі вялікую страту і пабудзіў іх да малітвы за памёршага.

Значыць, мне ўжо не асталося аб чым гаварыць.Да таго — я ўзыйшоў на амбонію — сам малы і хударлявы, з ціхім голасам (а тады галасьнікоў не зналі), дый я тут ня быў нікому ведамы . . . Аднак я меў вялікую перавагу над Бобічам, бо я быў праняты да шпіку касьцей і я бачыў перад сабою памёршага — свайго сардэчнага прыяцеля, якога адразу і страціў. І я пачаў ціха-ціха . . . Усе ўслухаліся і я пачаў пакрысе ўзвышаць тон і голас. Я гаварыў:

— Аднойчы бацька ў вялікай сям'і, будучы на паляваньні, злавіў невялікую птушачку, але такую прыгожую, што ўсе дзеці ў хаце не маглі на яе наглядзецца. Памясьцілі яе ў вялікай клетцы і яна, як прабыла ў іх колькі часу, дык пяяла так цудоўна, што ўсе свае і нават чужыя не маглі зь яе нацешыцца!

А прытым пёркі на ёй сьвяцілі рознымі колерамі, дык дзеці так яе любілі, што не аддалі-б нікому ні за якія скарбы.

Але няма на сьвеце поўнага шчасьця: аднойчы, калі дзеці спалі, раніцай птушка праціснулася праз недачыненыя дзьверцы і вылецела на двор і прапала . . . Толькі адно пёрка пакінула ім у клетцы. Дык з таго быў жаль яшчэ большы, як паглядалі на тое чароўнае пёрка.

Вы разумееце, што гэта значыць: Кс. Зэнон Якуць — ваш пробашч пакінуў вас. Але ён, здаецца, не пакінуў — ён тут перад намі, на нашых вачах, але тут асталася толькі яго меншая частка — толькі цела. Гэта — як тое «пёрка», бо важнейшая частка — жывая — душа яго — адышла ад нас. А бяз душы — цела траціць усялякую вартасьць: цела трэба адкінуць, вынесьці, пахаваць, засыпаць зямлёй і затаптаць . . .

Так і клетка — бяз птушкі — ўжо непатрэбная: яе выносяць і хаваюць. Аднак дзеці помнілі вельмі доўга сваю мілую птушачку.

Так і мы ніколі не забудзем свайго дарагога прыяцеля, духоўнага Айца! Ня толькі нам важна бачыць тыя вонкавыя знакі яго працы ў касьцеле, але вы будзеце адчуваць яго працу для вашых душаў: ня толькі, што прыгожа гаварыў вам навукі; але тое, што ўкладаў сваю душу ў сваю працу — аж ня стрымала ягонае цела і скрушылася ад надмернай працы, і памёр, маючы 29 гадоў веку, што яшчэ доўга мог і павінен быў жыць і працаваць на Божую хвалу . . .

Але прыгожая лілія коратка цьвіце і наймілейшы салавей пяе ня доўга. Залатая пшаніца першая жнецца. Так і людзі. Колькі-ж маемо сьвятых, што жылі вельмі коратка, а дайшлі да высокай сьвятасьці. Сам Хрыстос жыў толькі 33 гады.

Так і наш а. Зэнон Якуць адыходзіць, маючы толькі 29 гадоў: аднак ён дасьпеў перад Богам упаўнаце. Што з таго, калі хто жыве і доўгі век, дый заслугаў у яго менш як у малога дзіцяці, а грахоў бесканечная маса? . .

І так разьвітаемся з нашым дарагім прыяцелям — аж да зьмёртвых устаньня!

*

Усе людзі заліваліся сьлязьмі: ня было ў касьцеле чалавека, які-б ня плакаў. А я быў на амбоне, як той артыста пры фартэпіяне: ягоная душа выліваецца праз думкі, праз

рукі і праз клявішы — і ён ня думае, які клявіш націснуць — усё плыве машынальна і перадаецца слухачом у іх вушы і даходзіць да іх душаў!..

Мне не патрэбны быў ніякі пасярэдні інструмант: я проста бачыў людзей, але глядзеў глыбей — у іх душы. Праз іхнія вочы сьвяціліся іх пачуцьці: іхні настрой перадаваўся мне, а мой — ім. І я не падбіраў слоў, а мая прамова лілася як жыватворны дождж на прагную, сухую зямлю.

І вось я зыйшоў з амбоніі — ўвесь замкнёны ў сабе: не бачыў той масы народу, якая разступалася перада мною. Думаю, што і яны не бачылі мяне: кожны быў заняты жалем па дарагім памёршым. Я-ж далей перажываў сваю прамову: прыяцеля адпелі, панесьлі да магілы, пахавалі і пайшлі на абед, але ён доўга стаяў жывы ў маіх вачах і думках.

З такім настроем пасьля я ехаў 30 кілёмэтраў дамоў і нават мае клапоты і непаводзіны доўга не маглі зацёрці майго глыбокага жалю...

Так адходзяць ад нас дарагія прыяцелі, як тыя мілыя птушкі, што ўвосень адлятаюць у далёкія краі: толькі-ж птушкі вернуцца вясною — адмалоджаныя і вясёлыя, але мае дарагія прыяцелі ўжо ня вернуцца ніколі.

Больш ужо у Шаркаўшчыне мне ня прышлося бываць. Помню добра той касьцёл дзераўляны, што так прыгожа ўпарадкаваў Кс. Зэнон Якуць, які быў працавіты і вясёлы як гаротная пчолка, якая прыносіць чысьценькі нэктар-мёд, але ад цяжкой працы вельмі скора гіне.

«Вечная памяць!» такім слаўным працаўніком.

Аднак з вялікім сумам я чуў, што пару гадоў таму гэты касьцёл разбурылі бязбожнікі-камуністы: нават мясцовыя камуністы не пасьмелі прылажыць сваіх рук да бязбожнай работы, дык улада выклікала чужых і далёкіх...

А Маці Кс. Якуця — старэнькая, маленькая, сухенькая ўдоўка, якая мела 8-ра дзяцей і ўсіх пахавала. Зенон быў апошні, даражэйшы ёй як ейнае адно вока (на адно вока яна была нявідушчая), — Зэнон пакінуў маці 70-гі год, — асіраціў яе зусім!..

І парахвія без касьцёла асірацела...

І ўся Беларусь — без касьцёлаў і цэркваў — асталася Вялікай Сіратою...

## *Паведамленьне*

Гэтам падаецца да ведама, што Беларуская Школа для Хлапцоў імя Сьвятога Кірыла Тураўскага ў Лёндане пачала прыём кандыдатаў на 1965—66 навучальны год.

У школу могуць быць прынятыя хлопцы беларускага паходжаньня ў веку ад 8 да 12 гадоў.

Лік вольных месцаў у школе вельмі агранічаны. Дзеля гэтага зацікаўленыя бацькі ў сваім собскім інтарэсе павінны зьвярнуцца да кіраўніка школы ў як найхутчэйшым часе. Каб унікнуць непатрэбных затрымак і непаразумленьняў, бацькі павінны адразу падаць імя і дакладную *дату нараджаньня сына,* а таксама прыслаць арыгінал або копію апошняга *школьнага пасьведчаньня.* Апошні тэрмін складаньня заяваў мінае 31-га траўня 1965 г. для кандыдатаў з Эўропы і 30-га красавіка для кандыдатаў з заморскіх краінаў.

У ўсіх справах зьвязаных з школаю пісаць на адрас:

The Rev. Headmaster,
St. Cyril's House,
41 Holden Road,
London, N. 12.

*Р. Патры-Тамушанскі*

# Дарагія маладыя калегі!

Зьвяртаюся да Вас, Беларуская Моладзь, і маю на гэта права, бо я сам — малады студэнт. Радзіўся я ў Нью Ёрку, як сын і ўнук эмігрантаў: гавару і пішу па беларуску —



«простай» мовай, якою гаварыў зь дзедам у сваіх малодшых гадох. Пасьля мусеў вучыцца ў ангельскіх і францускіх школах у Канадзе, але беларускай мовы ня страціў і ня здрадзіў і яе ня стыдаюся, але вельмі цаню і люблю, як прыгожы і дарагі дарунак Бацькаўшчыны. Цяпер вучуся ў Нямеччыне, ў духоўнай сэмінарыі.

Паслухайце маіх пару слоў!

«Праходзячы недалёка мора Галілейскага, Ён (Ісус Хрыстос) убачыў двух братоў, Сымона, называнага Пятром і Андрэя, брата яго, закідаючых сеткі ў мора, бо яны былі рыбаловы, і кажа ім: Ідзеце за Мною, і Я зраблю вас лаўцамі чалавекаў. І яны заразжа, пакінуўшы сеці, пайшлі за Ім». (Мацьвей 4, 18-20).

«Чаму ў нас так мала нашых сьвятароў і наагул беларускага духавенства?»

Сапраўды гэтая праблема (мы яе ўсюды адчуваем) не малая для нашага народу. Ці то Бог аб нас у сваіх плянах забыўся? Але так думаць немагчыма.

Трэба ведаць, што духоўнае прызваньне — гэта справа і Божая і людзкая. Гасподзь Бог выбірае і кліча людзей да свае службы. Аднак сьвятары не звальваюцца з неба ўжо гатовыя. Бог выбірае са сьвету маладых людзей: запрашвае і кліча іх, але ці яны слухаюць і прыймаюць гэты голас?

Што нам кажа аб гэтым нашая гісторыя?

Мы бачым, што за часоў Вялікага Літоўскага Княства — часоў нашай незалежнасьці — жыцьцё нашай Царквы пульсавала вельмі жыва: мы мелі даволі сваіх сьвятароў, япіскапаў, манахаў і цэркваў. Але ворагі нашы палітычныя сталі такжа ворагамі царкоўнымі: яны знали, што Царква грае вялізную ролю ў грамадзкім жыцьці. Нашыя сьвятары прапаведвалі па беларуску, дык з таго і людзі былі сведамыя свайго паходжаньня. Але пад націскам ворагаў беларуская царква — лацінская (каталіцкая) фактычна ўтраціла свой характар: пакрысе станавілася польскай, а праваслаўная пацягнула ў бок расейскі. Так з двух бакоў наш народ траціў сваю нацыянальную сьведамасьць, найбольш зь віны духавенства.

Аж толькі ў пачатку гэтага стагодзьдзя з адраджэньнем нацыянальным пачынаецца адраджэньне царкоўнае: нашыя юнакі — сьведамыя — вучацца на сьвятароў. Мы ведаем, як савецкая бязбожнасьць вынішчае цяпер наагул рэлігію і беларускую сьведамасьць, але мы будзем гаварыць тут толькі аб нашай эміграцыі.

Тут на эміграцыі такія цяжкасьці ня існуюць: ува ўсіх вольных краёх можна маліцца ў родных мовах, але з выхаваньнем нашых сьвятароў справа труднейшая. Бог, праўда, кліча і беларускую моладзь. Нам толькі трэба прыймаць да сэрца ягоны кліч.

Сам Ісус Хрыстос гаворыць аб «вялікім жніве», аб «сьпелай ніве», але — кажа — «мала жанцоў», дык — кажа — «прасіце гаспадара, каб паслаў больш працаўнікоў на сваю ніву».

Праўда, Бог ёсьць першая прычына ўсяго, што дзеецца, але Бог не звальняе нас ад супрацы: мы молімся і кажам: «Божа, памажы!» — але Бог адказвае: «Ты сам не ляжы!» І 20-тае стагодзьдзе — гэта эпоха дзеяньня.

Адна з прычын браку нашага духавенства ёсьць матар'ялізм. Матар'ялізм — вораг ідэалізму: вучыць нас шукаць і працаваць і жыць не для вечнасьці, а дзеля гэтае зямлі як жывёліна.

Другая прычына, што маладыя людзі адкідаюць голас Божы — гэта супраціў бацькоў. Вельмі цяжка зразумець, чаму веручыя, нават пабожныя бацькі, ставяць перапоны і розныя цяжкасьці сваім дзецям, каб ня пусьціць іх на Божую службу?!

Возьмем адзін прыклад з жыцьця сьв. Яна Боско. Адна маці прышла да гэтага сьвятара з сваім сынком і пачала хваліцца сваімі дзецьмі. А Боско, глянуўшы на гэтага наймалодшага, кажа: «Вось гэты наймешы пэўна будзе сьвятаром?»

Але маці з абурэньнем адказала: «Што, сьвятаром? Ніколі! Барджэй была-б рада бачыць яго памёршым, як сьвятаром».

Ян Боско перасьцярог жанчыну, каб ня сьмела гэтага гаварыць. І вось пасьля некалькіх дзён тая-ж маці прыбегла да Боско, што той сынок цяжка хворы. Боско пасьпяшыў: паспавядаў хворага, даў яму камунію і астатняе намашчэньне і пры ім хлопчык памёр. Яшчэ перад сьмерцю пасьпеў сказаць няшчаснай маці: «Мама, я ведаю, чаму ўміраю: ці ты ня помніш, што сказала гэтаму айцу? . . . »

Чаму-ж тады бацькі так працівяцца Богу? Відаць, што яны не разумеюць вартасьці духоўнага стану. Яны забываюцца, што іх дзеці — гэта Божая ўласнасьць: Бог мае большае права да вашага дзіцяці як вы самі. І вы, бацькі — толькі апякуны вашых дзяцей, а не паны і ня «богі».

Часамі бацькі фальшыва разумеюць, што дзіця адданае Богу стане нешчасьлівым. А нашае жыцьцё нам сьведчыць, што поўнага шчасьця на зямлі няма — такое толькі магчыма ў Бога. Сьвяты Аўгустын такжа перш шукаў на зямлі шчасьця, а пасьля пераканаўся і казаў: «Неспакойнае нашае сэрца, Божа, пакуль у Табе ня супачыне». Дый у кажным стане ёсьць свае цяжкасьці — гэта ёсьць частка нашае спадчыны ад нашага бацькі Адама.

Бацькі адказваюць за духовае дабро дзяцей: калі не пазваляюць ім служыць Богу, дык сьцягнуць Божую кару на сябе і на дзяцей.

І яшчэ прычына, чаму ў нас мала нашых сьвятароў: моладзь не разумее, што ёсьць Хрыстовы сьвятар?

Людзі мудрыя і сьвятыя мелі глыбокае паважаньне да сьвятарства. Сьв. Францішак з Асыжу казаў: «Калі-б я спаткаў анёла і сьвятара, дык перш пакланіўся-б сьвятару». Бо і сапраўды сьвятару дадзеная большая ўлада як анёлу: сьвятару Ісус Хрыстос аддаў поўную сваю ўладу — адпускаць грахі, адпраўляць Найсьвяцейшую Ахвяру і інш. Сакраманты. Хрыстос казаў: «Як Мяне паслаў Айцец, так я пасылаю вас . . . »

Значыць, для мільёнаў душ сьвятар адчыняе неба і звальняе ад путаў грэху. Тады-ж праўдзіва кажуць і пішуць, што сьвятар ёсьць другі Хрыстос, бо ўва ўсей сваей службе заступае Самога Хрыста.

Цяпер трэба спытацца, хто можа стаць сьвятаром, якія трэба мець кваліфікацыі?

Першы знак — гэта добры намер або інтэнцыя, калі хто ясна пазнае Божую волю і хоча за ею ісьці. Дый хто мае жаданьне служыць Богу — дзеля любові Бога, для несьмяротных людзкіх душаў, ахвяравацца для Царквы і для Божага народу.

Другі знак: хто мае адпаведныя прыкметы — фізычныя, маральныя і духовыя.

Трэці знак: прыняцьце царкоўнай уладай.

Калі такія знакі ў каго ёсьць, дык ён мае Божае прызваньне-кліч і таму чалавеку абавязкава трэба Бога паслухаць і пайсьці ды ўступіць — ці то ў духоўны, ці ў законны стан. Трэба абсалютна здацца на Божую волю. Хто Бога не послухае і адвернецца ад Божае службы, той ня будзе шчасьлівы на зямлі і адкажа на Божым Судзе.

Магчыма, што Бог кліча і Цябе, малады Чытач, да службы ў Царкве для нашага народу — на сьвятара ці на законнага Брата ў законе. Ці Ты маеш адвагу пайсьці Божым сьледам? Маліся, каб Бог даў Табе сьвятло розуму і сілу волі!

Кенігштайн, 25. XII. 1964.

## *МАЛІТВА*

*Госпадзі Ісусе Хрысьце, Ты прыйшоў на сьвет, каб ратаваць загінуўшых, а дзеля таго ўстанавіў сьвятарства ў Царкве, якое мае да канца вякоў прадоўжваць Тваю працу на зямлі: Дай нашаму многапакутнаму беларускаму народу добрых сьвятароў і сьвятое духавенства, каб усе, якіх Ты выбраў ад вякоў на сваю службу, пайшлі ахвотна за Тваім голасам! Узмацні іх у сваей службе дый багаслаўі іхнюю працу. Аман.*

*«Дай нам, Госпадзі, ўбачыць Тваю ласку, даруй нам спасеньне Тваё!» «Пс. 84, 8).*



ПАПА ПАВАЛ VI І ПАТРЫЯРХ ЕРУЗАЛІМСКІ БЭНЭДЫКТОС

БЕЛАРУСКАЙ КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЕ Ў ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ, ЛЁНДАН

Вікарыяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вялікай Брытаніі вітае Вас зь Вялікім Хрысьціянскім Сьвятам Нараджэньня Хрыста, жадаючы ўсяго найлепшага. Лучымся з Вамі ў Малітве Божай за паляпшэньне жыцьця і здароўя нашага шматпакутнага Беларускага Народу.

Жадаем усім Вашым вернікам і Духоўнаму Сану вясёлага і шчасьліва-ва Новага 1965 Году.

*Хрыстос Нарадзіўся*

*Сьнежань 1964.*

*Вікарыяльная Управа БАП Царквы ў В. Брытаніі*

Старшыня *Янка Калбаса* Сакратар *А. Бута*

# З царкоўнага жыцьця

ВАТЫКАН — Да вялізарных грамадаў народу на пляцы Сьв. Пятра, Папа Павал VI прамаўляў на Новы Год: гэта быў гарачы апэль-заклік да м і р у і з г о д ы, асабліва ў тых краёх, якія сталі відовішчам калатні і варожасьці.

✳

ЛЁНДАН — Калядная ЕЛКА ў Лёндане — — гэта падарунак Нарвэгіі для Англіі: прысылаюць стуль найпрыгажэйшую яліну — высокую, стройную — як памятку помачы і прыязьні, якую сьведчыла Англія падчас гітляроўскай акупацыі.

Елка убраная і асьветленая цудоўна. Перад ёй парадуюцца хоры з калядными песьнямі, прычым народ падхоплівае мэлёдыю і пяець з вялікім энтузьязмам. Уздоўж і ўпоперак галоўных вуліц разьвешаны раскошныя гірлянды з электрычнымі каляровымі лямпачкамі. А праз вокны відаць большыя і маленькія ёлачкі у прыватных і ўрадовых дамох, упрыгожаныя ўсякім багацьцем і цацкамі для дзяцей.

Сапраўды, Каляды ў Англіі — гэта вялікае Нацыянальнае Сьвята ўсяго народу. І ў першы дзень Каляд блізка зусім замірае рух самаходаў, бо ўсе сем'і стараюцца правесьці Сьвята ў сябе дома.

Толькі сьнегу няма! Дый рэдка ў Англіі бывае на Каляды сьнег. А нам, эмігрантам успамінаецца сьнег на Беларусі: бліскучая дарога, ўсё неба асьвечана мігаючымі зоркамі, мароз паддае гарту і энэргіі. Ідзём ў ночы на набажэнства, як пастушкі сьпяшаліся ў Бэтлеем...

✳

ВАТЫКАН — 6. І. 1965 Папа назначыў дзень 14 верасьня, калі адчыніцца IV-ая і апошняя Сэсія ІІ-га Ватыканскага Сабору. Тэрмін канцавы ня вызначаны: ёсьць весткі, што можа патрываць да самых Каляд гэтага году — будзе залежыць ад прабегу саборнай працы.

Падлягаюць дыскусіі справы кантролі нараджэньня, вольнасьці рэлігіі, сусьветнага раззбраеньня і міру і вельмі клапатлівая справа рэформы рымскай Курыі. Таксама справа «Сэнату» біскупаў, якія маюць зьбірацца у Рыме разважаць самыя важныя пытаньні адміністрацыі Каталіцкай Царквы.

✳

РЫМ — Зьявілася ў газэтах вестка, што Папа назначыў біскупам для літоўскай эміграцыі ў Эўропе а. Пранцішка Бразіса з Закону аа. Марыянаў, які дасюль быў Віцэ-Генэралам гэтага Закону.

МАРЫЯН ГАЎЗ і Рэдакцыя «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» жадаюць Новаму Біскупу ўсяго найлепшага з Божым багаславенствам.

✳

ПРАСЬЛЕД РЭЛІГІІ Ў СССР.

Сав. прэса піша, што выкрылі таёмны манастыр у гор. Алма-Ата: знойдзены ў склепе схаваныя набожныя старыя кніжкі і рэлігійныя брашуры. Рэвізію правёў судовы сьледчы, сканфіскаваў усю гэтую «літэратуру». Як звыкла дзееца, манастыр будзе зачынен, а «вінаватыя манахі» будуць прыцягнуты да адказнасьці.

✳

*Забарона вучыць дзяцей малітваў* і наагул рэлігіі да 18-ці гадоў.

Ці ня ў зьвязку з гэтым у газ. «Знамя юности» даецца шмат фактаў з жыцьця моладзі ў Беларусі, ў гор. Гомелі. Падросткі ад 12-ці год арганізуюцца ў таёмныя гурткі, «рамантычныя банды», як самі называюць, дый выходзяць на начны грабеж. Адзін з такіх, малыш Вова, накраў праз два месяцы на 12 тысяч рублёў. Нядаўна судзілі групу падросткаў у Гомелі. Гэтыя рабавалі, як практычныя старыя хуліганы, ў вялікіх магазынах, нават кралі машыны.

Галоўная прычына гэта — нуда! Надаела вечная прапаганда, зборка жалежнага лому, гутаркі і пахвалы цаліны, статыстыкі і працэнты. І ўсюды забароны і загародкі, бо Сав. Союз — «Вялікая Турма Народаў».

А рэлігійнае выхаваньне, якое займалася фармаваньнем характару і сумленьня, забаронена. У Саюзе існуе моцная перасьцярога, што ад бацькоў будуць забіраць дзяцей, калі бацькі ня перастануць іх вучыць маліцца і гадаваць па-хрысьціянску.

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Англія

### УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ Ў ЛЁНДАНЕ

Беларусы ў Лёндане адсьвяткавалі ўгодкі Слуцкага Паўстаньня ў нядзелю 29-га лістапада. Раніцай гэтага дня ў беларускай царкве сьв. Пятра і Паўла а. Л. Гарошка, у саслужэньні з а.а. Я. Гэрмановічам і А. Надсонам, адслужыў св. Літургію і Паніхіду за ўсіх тых, што аддалі сваё жыцьцё за Беларусь. Сьпяваў хор Школы сьв. Кірыла. У сваім казаньні а. Гарошка гаварыў аб значэньні і вартасьці ахвяры.

Вечарам адбылася ўрачыстая акадэмія ў Беларускім Доме. Старшыня ЗБВБ, сп. Ул. Бутрымовіч, зрабіў вельмі цікавы і зьмястоўны даклад аб Слуцкім Паўстаньню. Па ангельску гаварыла спадарышня Вера Рыч.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае мастацкая частка вечару, падрыхтаваная спадарышняй Рыч. Праграма складалася з вершаў ангельскіх паэтаў на беларускія тэмы. Былі прачытаныя творы Олуэн Уэй, спадарыні Э. Цітовіч (ангельская паэтка, жонка беларуса), Джэйн Кіндэр, Іўлін Тулі-Гант, Алісдэр Афтон, Д'яны Шэргольд і самой спадарышні Рыч.

✳

### ЛІТУРГІЯ Ў АНГЕЛЬСКАЙ ШКОЛЕ

У чацьвер 3-га сьнежня а. А. Надсон адправіў сьв. Літургію ў адной вялікай ангельскай школе для дзяўчат у Уімбледон каля Лёндану, ведзенай манашкамі чыну сьв. Уршулі. На Літургіі было прысутных больш чым 300 вучаніц старэйшых клясаў і амаль усе яны прыступілі да сьв. Прычасьця. Усе дзеці былі добра падрыхтаваныя і бралі чынны ўдзел у сьв. Літургіі. Такая падрыхтоўка павінна была ім каштаваць нямала часу і высілку. Вось яшчэ адзін малы доказ зацікаўленьня на Захадзе ўсходня-хрысьціянскімі пытаньнямі.

✳

### ЯЛЛІНКА Ў БРАДФОРДЗЕ

Юнацкі клюб у Брадфардзе ладзіў у нядзелю 27-га сьнежня ялінку для беларускіх дзяцей. Былі прысутныя дзеці з Брадфарду, Лідс і Манчастару. Ялінка адбывалася ў Беларускім Доме. Яна пачалася скромным пачастункам. Пасьля быў Дзед Мароз, падаркі, калядкі, гульні і скокі да позьняга вечару. На ялінцы была прысутная група вучняў з школы сьв. Кірылы, якія ў тым часе былі ў бацькоў на канікулах. Яны засьпявалі некалькі калядак і зайгралі на дудках «Саўка ды Грышка ладзілі дуду».

✳

### ЯЛІНКА У ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛЫ

Як і ў мінулыя гады, ялінка, якую вучні Школы сьв. Кірыла ладзілі ў нядзелю 13-га сьнежня, цешылася вялікім посьпехам сярод малых і дарослых.

У мастацкай частцы вечару трэба адцеміць у першую чаргу бэтлейку, даўжэйшую і багацейшую, чым у мінулыя гады. Бэтлейка была пастаноўкай у 4-рох актах (Дарога ў Бэтлеем, карчма ў Бэтлеем, Пастушкі ў полі і Перад Пяшчэрай) — рэч нялёгкая на маленькай сцэне. Патрэба зьмены дэкарацыяў дадавала яшчэ больш цяжкасьцяў. Тым ня менш, маладыя артысты вывязаліся з сваіх заданьняў на выдат-



*Пастухі ў полі*

на. Сярод тых, якія асабліва спрычыніліся да ўдачы пастаноўкі тут трэба успомніць вучня Ф. Сенькоўскага, які зрабіў дэкарацыі і выказаў пры гэтым немалыя мастацкія здольнасьці.

Калядоўшчыкі з зьвяздою прасьпявалі некалькі калядак на беларускай і іншых мовах. Сярод беларускіх калядак былі такія старыя, сяньня ўжо мала ведамыя песьні, як «Дзіўная навіна» і «Новая радасьць». Вельмі прыгожа былі выкананыя нямецкая калядка «Эс іст айн Розэнтшпрунгэн» і лацінская «Квэм пасторэс».

Дзед Мароз прынёс падаркі для ўсіх дзетак. І што гэта былі за падаркі! Кожны атрымаў тое, што яму было найбольш патрэбнае: адзін — мыла, другі — гузікі і нітку, трэці — будзільнік . . . Пэўна, былі там і іншыя падаркі для добрых дзяцей.

Вялікая ялінка была прыгожа прыбраная цацкамі зробленымі самымі хлопцамі.

На заканчэньне было скромнае прыняцьце для ўсіх гасьцей.



*У карчме*

БЭТЛЕЙКА
У ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА — ЛЁНДАН



*Калядоўшчыкі*

Н я м е ч ч ы н а

## НЯМЕЦКІ ХОР СЬПЯВАЕ БЕЛАРУСКІЯ НАПЕВЫ

Студэнты нямецкай каталіцкай духоўнай сэмінарыі ў Кэнігштайне ўжо ад доўгага часу цікавяцца ўсходнімі пытаньнямі і ўсходняй царкоўнай музыкай. Іхні хор добра ведае сьпевы Літургіі сьв. Яна Залатавуснага і яму няраз прыходзілася сьпяваць у розных цэрквах у Кэнігштайне, Мюнхэне і іншых мясцовасьцяі. Часта яны сьпявалі на Літургіі, якую служыў беларускі сьвятар, а. Пратаерэй Ул. Салавей.

Нажаль да гэтага часу Кэнігштайнскі хор ня ведаў беларускіх літургічных напеваў. Цяпер усё гэта зьмянілася дзякуючы беларускаму студэнту, сп. Р. Тамушанскаму, які ад мінулага году вывучае багаслоўе ў Кэнігштайнскай сэмінарыі. Наш сэмінарыст за кароткі час змог зацікавіць беларускай музыкай сваіх нямецкіх сяброў. Ён дастаў патрэбныя матар'ялы з Мар'ян Гаўз у Лёндане і цяпер хор сэмінарыстаў у Кэнігштайне вывучае беларускія царкоўныя напевы. Мы павінны цешыцца, што веданьне беларускай царкоўнай музыкі пашыраецца на Захадзе, і падзякаваць сп. Тамушанскаму за ягоную карысную ініцыятыву.

# *Агляд беларускай прэсы*

### «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Лістапад-Сьнежань, № 13 (627)

На першай бачыне: *Каляднае Пасланьне* Япіскапаў Праваслаўнае Царквы на Чужыне. У цэлым Пасланьні разьвіваецца думка Сьв. Эванэліі: «Я — Сьвятло сьвету». Даюцца цытаты з Апост. Дзеяў, з Апакаліпсы Сьв. Яна, з Псальмаў і найбольш з Эванэліі. Абодвы Ўладыкі прызываюць вернікаў, каб прынесьлі Божаму Дзіцятку свае дары: чыстыя сэрцы, гатовыя змагацца з усякім злом, згодную з Богам волю, выбачэньне ўсім, нават непрыяцелям, самаахвярнасьць, вытрываласьць, палымяную любоў, адданасьць і служэньне Яму.

*Каляднае Пасланьне* Апостальскага Візытатара для Беларусаў-каталікоў Уладыкі *Часлава Сіповіча.*

Каляды — гэта ня ёсьць толькі ўспамін гістарычнай падзеі, але гэта — памятка вялікага міласэрдзя Спрадвечнага Айца, які паслаў Свайго Сына, каб людзі ня блукаліся ў цемры паганства ці ў бяздольным шуканьні праўды, а каб мелі радасьць новага жыцьця з Богам.

Уладыка прыпамінае аб некаторых сумных падзеях у нашай Бацькаўшчыне — (прасьлед рэлігіі ў Саветах), але і аб немалых радасных здарэньнях для Царквы ў сьвеце. Да такіх залічае III-юю Сэсію Ватыканскага Сабору, Эўхарыстычны Канэрэс у Бамбэі і спатыканьне Захаду і Ўсходу — Папы і Патрыярхаў у Ерусаліме 4, 5 і 6 студзеня 1964 г.

Спатканьне з Патр. Атэнагорам Канстантынопальскім, аб якім вельмі шмат пісалася ў прэсе, зацьміла ўсе іншыя спатканьні — такжа надта важныя — спатканьне Папы Паўла VI-га з Патрыярхам Ерузаліму Бэнэдыктам (глядзі фото!), з Патрыярхам армянскім Егішэ Дэрдэр'янам, з прадстаўніком Англіканскай і Коптыйскай Цэркваў, дый з многімі іншымі.

✳

Далей «Бацькаўшчына» апісвае палажэньне эканамічнае ў Сав. Саюзе (голад у Горадзеншчыне) і нацыянальнае (нішчэньне нацыяў). Пасьля ўпадку Хрушчова няма там нічога лепшага: відавочнае хістаньне ўрадовай тактыкі, але інтэнцыі і пляны ўраду варожыя да Беларусаў. Прыгнёт у калгасах і прасьлед рэлігіі трывае далей.

✳

### «БЕЛАЛРУСКІ ГОЛАС»

Лістапад, 1964, № 122.

«Канец Хрушчова»: разважаюцца прычыны і вынікі ягонай дымісіі. Але тут уся справа ў тым, што сав. сыстэма, якая ўсьцяж перажывае непаводзіны, каб апраўдаць сябе, вымагае «ахвярных казлоў», на якіх звальвае ўсю адказнасьць. Так дзеецца на хвабрыках, у калгасах і аж да самых вярхоў. Такім «казлом» стаўся Мікіта Хрушч і пасьля такім будзе ягоны наступнік і г. д. А народ будзе ўсьцяж мучыцца, пакуль ня зваліць вар'яцкай сыстэмы, бо ў Амэрыцы 8% насельніцтва — земляробы — кормяць усю дзяржаву і дакормліваюць шмат сьвету; у Сав. Саюзе 45% насельніцтва — працуюць на зямлі і ня могуць пракарміць свайго народу і купляюць пшаніцу за граніцай...

Вінцук Адважны дзякуе за рэцэнзію кніжкі «Князь і Лапаць».

## «НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ»

15. XII. 1964, № 20 (22).

«Невясёлыя Лепельскія Будні» і наагул маса сумнага, цяжкога матар'ялу даюць «Навіны» з Сав. Беларусі. Часам аднак трапляюць сапраўдныя кветкі — нашыя «родныя зьявы», каласкі паэзіі, дзе «жывое слова» хапае за душу. Перадрукоўваем: «МАТЧЫНА МОВА».

### *МАТЧЫНА МОВА*

*Схіліўшыся нізка к калысцы ліповай,*
*Пела мне маці ночкай зімовай*
*Песьню, ў якой адны родныя словы . . .*
*Матчына мова,*
*Матчына мова.*
*«Маці», «Радзіма» — сэнс гэтых словаў*
*Адкрыў нам ў школе настаўнік вясковы,*
*З чулай душою, з твару суровы . . .*
*Матчына мова,*
*Матчына мова.*
*Дзеўчыне любай пад сьвіст салаўёвы*
*Шапталі мы цёплаю ночкай вясновай*
*«Кахаю» — адзінае слова . . .*
*Матчына мова,*
*Матчына мова.*
*Вечна барам гаманіць сасновым,*
*Вечна калосьсям шаптаць жытнёвым,*
*Век будзе жыць мая родная мова,*
*Матчына мова,*
*Матчына мова!*

Міхась Кушняроў
(«Літаратура і мастацтва», 24. XI. 64)

*

## «БЕЛАРУС»

Нью Ёрк — Торонто. Ліст.—Сьнеж., № 92—93.

Вельмі важны ўспамін аб Алякс. Сержпутоўскім, якога 100 год споўнілася — ад нараджэньня — ў чэрвені. Гэта выдатны белар. этнаграф і пісьменьнік, зьбіральнік народнае творчасьці: на жаль, аб ім грамадзтва ня помніць, як ён на гэта заслужвае. Ягоныя кніжкі ў Сав. Саюзе былі выдаваныя, але — на дзіва — ў малой колькасьці, ды і тыя бывалі канфіскаваныя . . .

Сержпутоўскі зьбіраў і сам тварыў цудоўныя казкі; адна такая — «Цыган-Музыка» надрукаваная ў «Беларусе».

У нумары пададзеныя цікавыя інфармацыі аб Асвальдзе ў Менску, аб «Нашай Ніве» і вельмі «Сумныя весткі з Бацькаўшчыны», а ўжо-ж у «Лістох да Сабакі» паказана найчысьцейшая паэзія і найглыбейшая трагэдыя Язэпа Пушчы і ўсяго нашага Народу.

Ах, якая шкода, што часапіс «Беларус» выходзіць, калі можа, а гэта бывае так рэдка!

## «СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ»

Красавік—Кастрычнік, № 4—5, 1964.

Кожны, як умее, змагаецца за Праўду і Волю: трэба сказаць, што і «Сьветач» таксама падае шмат думак, якія прымушаюць і чытача задумацца. Нават думку з Тальмуду варта паўтарыць і падкрэсьліць.

«Ня зьневажай сябе нязгодаю, якая губіць цела, душу і маемасьць. Мне даводзілася бачыць, як белыя пачарнелі, вяльможы ўмаліліся, цэлыя сем'і шчэзьлі, князі згубілі сваю маемасьць, значныя месты былі разбураны, умовы былі зломаны, шляхэтныя людзі былі зганьбаваныя, веруючыя згінулі і слаўныя акрыліся ганьбаю і сорамам, і ўсё гэта з прычыны нязгоды . . .»

---

## БЕЛАРУСКІЯ ПАЭТЫ НА АНГЕЛЬСКАЙ МОВЕ

У 1964 г. паявіліся ў ангельскай мове тры вершы беларускіх паэтаў, усе ў перакладзе спадарышні Веры Рыч.

Ангельскі часапіс «Manifold» (6 Luna Street, London, S.W. 10) у сваім 11-тым нумары замясьціў верш А. Вялюгіна, «Лясное возера». У зімовым нумары амэрыканскага часапісу «The Muse» (Box 301, Route 1, Cathlamet, Washington) быў замешчаны верш М. Багдановіча «Зімой». У 2-ім нумары іншага амэрыканскага часапісу «SCTH» (El Rito, New Mexico) паявіліся пераклады 3-га і 4-га «танкаў» (імітацыі японскіх вершаў) М. Багдановіча.

Ангельская паэтка Вера Рыч ня ёсьць новай у галіне перакладаў беларускіх паэтаў на ангельскую мову. Ужо ў 1960 г. у зборніку ейных твораў «Outlines» паявіўся мастацкі пераклад «Песьні Звонаў» з паэмы «Сымон Музыка» Я. Коласа. У зборніку твораў маладых ангельскіх паэтаў за 1941 г. (Collected Poems 1961, Venture Press, Hull) мы бачым пераклады Уступу да «Сымона Музыкі» Я. Коласа (Ад роднае зямлі) і «Зоркі Вэнэры» М. Багдановіча. У выданьні 1962 г. гэтага самага зборніку спадарышня Рыч памясьціла «О край родны» з «Сымона Музыкі» Я. Коласа і «Ты прыдзі» Я. Купалы.

Неадрэчы тут успомніць два вельмі ўдалыя вечары — ў Лёндане і ў Брадфардзе — прысьвячаныя паэзіі Я. Купалы, ладжаныя Верай Рыч восеньню 1962 г.

Было-б вельмі пажаданым, каб паэтка магла выдаць асобай кнігай анталёгію беларускай паэзіі на ангельскай мове.

# *Зь лістоў у рэдакцыю*

Сяньня маю вольны час. На дварэ — дождж, значыць, сяджу дома. Каб была пагода, было-б трэба маляваць дах. Бачым, што часамі і непагода спрыяе. А і дома колькі той работы! Амаль дзьве гадзіны наводзіў парадак у сваіх паперах і штось з гадзінку перапісваю накінутую на картцы думку-вестку, пачутую заўчора, якую і залучаю для «Б. Шляхам». «Думка» тасуецца ня толькі да Аўстраліі — можа быць скіраванай да ўсіх.

А меў сяньня заняцца крыху даўжэй зь дзецьмі. Учора мелі гадзінку і плянаваў сяньня даўжэй «пагуляць» у беларусаведу. Зноў прыдзецца адлажыць ці скараціць (на пацеху, нажаль, дзецям).

У нас — лета. Але лета аўстралійскае. Недалёка ішоў град. Добра, што ў нас быў толькі дождж і халадней. (Заўсёды цешымся, калі нас бяда абмінае . . .). Магчыма заўтра будзе цёпла, нават горача. Тут аднаго дня тэмпэратура можа зьмяніцца на 20 і больш градусаў.

Якраз прынясьлі мне газэту, а там некалькі абразкоў з Мэльбурну: на вуліцах поўна сьнегу — можна езьдзіць на санках!

(Увага Рэд.: Ведама, што цяпер у іх самае гарачае лета!).

Пад абразкамі было падпісана: «На эўрапэйскія Каляды». Аказалася, што сьнег выпаў недалёка ад нас. Якая шкода, што ня ў нас! Гэтулькі разоў дзеці прасілі паехаць на сьнег нашай зімою ў горы — за 50—100 міляў ад нас. А тут ён сам «прыйшоў» у Мэльбурн. Дый зрабіўбы лепш, каб пазьней — і каб выпаў на самыя Каляды. Была-б сэнсацыя. Тут, калі аўстралійцы ня могуць правесьці сьвята над морам — на пляжы — то ўжо і ня сьвята! А быў-бы сьнег: якая радасьць была-б для нас, эўрапэйцаў, мець сьнег на Каляды, але прыкрасьць для тутэйшых жыхароў . . .

Залучаю фатакартачку, зробленую перад выездам у царкву на сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня.

Прашу прыняць Сабе і перадаць усім найбліжэйшым Беларусам у Англіі найшчырэйшыя Калядныя і Навагоднія пажаданьні.

Н.

*

ПАРЫЖ, 18. XII. 1964. — Дзякую Вам за ліст і абразок! Ведама, што ў гэтым тыдні Каляды, але ня так як на нашай Радзіме, калі людзі чакалі такога Вялікага Сьвята. А тут людзі нічога не чакаюць: няма ані аплаткаў, ані калядьнікаў, ані калядных песьняў. Некаторыя карыстаюць з часу, каб дарабіць новую капейку — або рапаруюць аўто, або памагаюць сябру будаваць хату і г. д. Цяперака апішу Вільню. Быў я там у 1944 г. Горад тады вельмі апусьцеў, а Замковая Гара стала лысай. А на Вострай Браме ўжо ня было Белага к., толькі вольнае месца. Друя ўся спаленая і мураваная сынагога. Але больш шкада, што і ўніяцкая цэркаўка, будаваная ў XVI веку, згарэла ля вусьця ракі Друйкі. Там ёсьць якраз камень асаблівы тым, што мае знак, які нагадвае форму крыжа без касога знаку на ім, а літары нячытэльныя. Таксама камень, што завуць «Гранічны» каля мястэчка Язно — крыж вось які ✠, а каля возера Язно крыж падобны на першы.

Магчыма, што гэта будзе цікава для гісторыі.

Дарагі Магістар, як Ваша здароўе? Бо Лёндан вельмі туманны, як Палесьсе.

Можа калі вернемся ў Бацькаўшчыну, як жыды вярнуліся ў Палестыну. Доўга чакалі, але вярнуліся. А мы можа ня будзем так доўга чакаць? Але ў Бога часу многа.

Жадаю Вам многа здароўя ад Госпада Бога і сілы ў штодзённым жыцьці. Вясёлых Каляд!

З пашанай. Віктар Жаўняровіч.

*

БРАЗЫЛІЯ, 27. XII. 1964. — Вітаю Вас з Новым 1965 Годам. Малюся да ўсёмагутнага, каб даў Вам здароўе духа і цела, добрых паводзінаў і сілы ў труднай, але плённай дзейнасьці на Хрыстовай ніве ў выхаваньні маладога пакаленьня і . . . нас, старых дзядоў, — у нацыянальным духу нашай дарагой, хоць і паднявольнай Беларусі.

Вельмі я ўдзячны за часапіс «Божым Шляхам», які дастаю рэгулярна, а гэта для мяне радасная і карысная страва. Бачу і цешуся, што Вашае выхаваньне моладзі яшчэ ў Друі дае плён і цяпер, як відаць з тых лістоў, што Вы атрымліваеце з розных кантынэнтаў. Шкада, што я ў Бразыліі такіх не спатыкаю, асабліва ў Ріо дэ Жанэйро.

Жыву, як і раней, у горах сярод тубыльцаў: матар'яльна так-сяк перабіваюся, а сытуацыя яшчэ далей псуецца. Здароўе асуваецца, бо — ведаеце — я ўжо добра стары. Аднак на лёс не наракаю — ў-ва усім Божая воля. Адно добра, што ў гэтым краі свабода і воля — ня прымушаная. Пагражаючы камунізм зламаў сабе карк.

Каляды я адсьвяткаваў адзінокім: на ўрачыстым набажэнстве ўначы ня мог пабыць, бо гэта з нашых гораў было немагчыма. Затое днём 25. XII. быў і маліўся на трох літургіях.

Пагода ў нас дажджлівая, а дзеля таго ў мяне ў горах ёсьць вада, ведама, дажджавая. Звычайныя ў гэтым часе гарачыя дні яшчэ не надышлі.

Вітаю ўсіх суродзічаў Беларусаў, Вашых супрацоўнікаў і выхаваўцаў і вучняў школы Сьв. Кірылы. Каб Бог даў Вам поўны росквіт!

Ваш Віктар Небядовіч

✳

КАНАДА, ТОРОНТО. — 44-ыя ўгодкі *Слуцкага Паўстаньня* сёлета адзначаны ў абедзьвюх беларускіх парахвіях.

У парахвіі Сьв. Еўфрасіні Полацкай дня 29-га лістапада 1964 г., пры ўдэкараванай царкве беларускімі сьцягамі, адбылася спэцыяльная Божая служба і паніхіда за палёгшых Герояў у барадзьбе за волю Бацькаўшчыны.

Настаяцель царквы прат-й Сагадакіўскій сказаў спэцыяльную прамову пабеларуску, славячы беларускіх Змагароў — ня толькі за Беларусь, але як Змагароў агульна людзкіх за правы ўсяго чалавецтва.

Перад паніхідай быў адчытаны апэль па палеглых беларускіх Змагарах, замардаваных царскім і бальшавіцкім расейскім імпэрыялізмам.

Урачыстасьць закончана песьняй «Магутны Божа . . .»

У парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага адбылася гэтак-сама Багаслужба і паніхіда. Пасьля Багаслужбы ў мясцовай салі зрабіў даклад Сп. А. Грыцук і была адыграна тасьма, спэцыяльна награная гэтай урачыстасьці.

✳

Дня 6-га сьнежня, 1964 г. захадамі Канадыйска-Украінскага Камітэту быў наладжаны вялікі мітынг прадстаўнікоў паняволеныі бальшавікамі народаў.

У гэтым мітынгу між іншымі народамі бралі ўдзел і Беларусы.

Мэта мітынгу: расказаць перад канадзкімі ўладамі камуністычны фальш пра савецкі «рай» і каб Канада і надалей асталася глухой на савецкую брахню на некатарых — нявыгодных ім людзей, якія сяньня зьяўляюцца канадзкімі чэснымі грамадзянамі. Тыя адзінкі паходзяць з розных краін, сяньня паняволеных расейскім імпэрыялізмам, часта зьяўляюцца актыўнымі дзеячамі ў сваіх этнічных групах і ёсьць вельмі нявыгоднымі для маскоўскіх заправілаў.

На мітынгу былі прысутныя прадстаўнікі ад гарадзкіх і правінцыяльных уладаў, а такжа ад духавенства.

І-п

✳

## АЎСТРАЛІЙЦЫ ПАМАГАЮЦЬ БЕЛАРУСАМ

Часта наракаюць нашыя суродзічы на аўстралійцаў. Але ці заўсёды гэта справядліва? Ці, наадварот, ня варта іх браць за прыклад?

Нядаўна здарыўся такі факт:

У аднае ўдавы-фармаркі, з якой мы пазнаёміліся ў прошлым годзе, пажар над раніцай зьнішчыў кампletна ўсе фармарскія будынкі, разам з інвэнтаром. І каб не алярм прыпадковага там аўстралійца, які даслоўна «выграў» яе з дзяцьмі ў адных кашулях з ложкаў, згарэлі-б і яны.

Асталіся кампletна «голыя».

Сам фармар (муж і бацька) — памёр перадчасна ў мінулым годзе. Пакінуў хваравітую жонку і двое недарослых дзяцей (яны перайшлі з мужам «савецкі рай»).

І вось пачалі ўжо яны самі бяз бацькі гаспадарыць і «бяду з хаты выганяць». Калі, здавалася, што мелі «стаць на ногі», бяда наляцела новая: недагашаны агонь у печцы зьнішчыў усё! А людзі асталіся . . .

Але і «сьвет — не бяз добрых людзей» — і ў Аўстраліі іх даволі: памаглі няшчасным пагарэльцам і то адразу.

Найперш паліцыя: прывезьлі купленыя ложкі і коўдры, а бліжэйшыя суседзі назносілі патрэбных рэчаў, адзеньня і ежы. Дый знайшліся ахвяравальнікі, якія здабылі для іх матар'ял на хату і на патрэбныя будынкі: а самі суседзі ўзяліся за будову. На дзіва вельмі коратка чакалі пагарэльцы на новую — шмат лепшую — хату, шмат лепш уладжаную і ўмэбляваную. Дык, праўду кажучы, на пажары матар'яльна толькі выйгралі! Страцілі толькі дарагія памяткі з Бацькаўшчыны. Але страх, які перажылі ў пажары, быў нагароджаны добрым сэрцам спачуваючых аўстралійцаў.

І гэта ня першы падобны прыклад. Але прыпамінаецца яшчэ адзін:

Нашыя добрыя знаёмыя (між іншым жылі якісь час у нас) мелі падобны выпадак. Жылі яны ў правінцыі ў невялічкім гарадку, даволі далёка ад Мэльбурну.

У гэтых згарэла ўсё ў белы дзень! І таксама кампletна: нічога не ўдалося выратаваць. І мясцовыя жыхары адразу зарганізавалі дапамогу. У самы кароткі час збудавалі новую і лепшую хату і даравалі ўсё патрэбнае — аж, здаецца, да збытку.

Бачыце, што аўстралійцы маюць добрае сэрца: спачуваюць у няшчасьці і ахвотна памагаюць эмігрантам.

І яшчэ прыклад крыху іншы.

Меў я нагоду зьбіраць розныя ахвяры на ўцекачоў — такіх самых, якімі былі і мы, пакуль ня прыбылі ў Аўстралію. І што-ж? Былі нашыя людзі, якія адмовіліся нешта даць, але аўстралійцы давалі і часта — нямала.

Таму нельга наракаць на аўстралійцаў, якія далі нам прыпынак — другую Бацькаўшчыну, ў якой нашым дзецям можа быць шмат-шмат

лепш, як калісьці жылося нам. Бо, калі тут за 12—15 гадоў мы ўладзіліся зусім памысна — то гэта ня значыць, што толькі праз сваю працаздольнасьць, але дзякуючы гэтым варункам, што мы знайшлі ў Аўстраліі. А памагаць патрабуючым, асабліва сваім суродзічам — гэта наш заўсёдны абавязак.

«Кінь за сабою — знойдзеш перад сабою»: прыказка беларуская і яна — агульналюдзкая.

М. Н.

## «НА ШТО ЗЬВЯРТАЦЬ УВАГУ ПРЫ ВЫХАВАНЬНІ ДЗЯЦЕЙ?»

Да мяне зьвяртаюцца неаднойчы бацькі з гэтым пытаньнем — і ў лістох і ў прыватных размовах.

На гэтае пытаньне належыць адказываць паводле адзіночных абставінаў: 1) якога ўзросту, здароўя і характару дзіця? 2) якога ўзросту, здароўя і характару самі бацькі? 3) якія ў іх матэр'яльныя абставіны жыцьця?

Ёсьць аднак некаторыя агульныя вымогі. Так, др. І. В. Магаль кажа: «У унівэрсытэце нам гаварылі, што, хочучы памагчы хвораму чалавеку, мы павінны помніць, што душа і цела жыве адным жыцьцём і мы павінны заўсёды зьвяртаць увагу як на адно, так і на другое».

Вось гэтая самая ўвага патрэбна і пры выхаваньні дзяцей, каб не гадаваць толькі здаровага, вясёлага і . . . тлустага дзіцяці, бо «гэтага і пагане шукаюць», калі датасаваць сюды словы Хрыста. Найважней, каб выхаваць дзіця ў самых нейвышэйшых, хрысьціянскіх ідэалах.

І яшчэ вельмі важная справа ў выхаваньні, каб выхаваўцы самі давалі *добры прыклад.*

Я знайшоў дужа трапныя ўвагі ў лістку № 14 «Н. Путь»:

1) Будзь сам тым, чым хочаш, каб сталі твае дзеці.

2) Чаго дамагаешся ад дзяцей, рабі гэта і сам.

3) Што забараняеш дзецям, адмоўся ад таго і сам.

4) Будзь прыкладам для дзяцей ня толькі тады, як яны цябе бачаць і чуюць, але і ў іхнай няпрысутнасьці.

І далей гэты самы аўтар тлумачыць, асьцерагае: у такой меры, колькі ты будзеш паслушны Богу, дзеці будуць слухаць цябе. Калі ўзяць параўнаньне месяца і сонца, дык месяц толькі сьвеціць і то недастаткова, а ня грэе зусім; а сонца і сьвеціць, і грэе і трымае жыцьцё на зямлі. Падобна выхаваньне з добрым прыкладам і з Богам — гэта ёсьць поўнае выхаваньне і прынясе бацьком радасьць і славу, а ў дзецях астанецца добрая памяць аб такіх бацькох.

А нават найлепшае выхаваньне бяз Бога і бяз добрага прыкладу, хоць-бы давалася дзецям высокая адукацыя і навукі — гэта толькі заменнік ці сурагат выхаваньня, якое толькі пазычае добрыя прынцыпы ад Хрыста, але не дае Самога Хрыста і Бога, як месяц пазычае сьвятло ад сонца.

Праўда, мала яшчэ толькі прызнаваць Бога, але трэба Богу маліцца, прасіць у Яго помачы, пакутаваць за грахі, дзякаваць за Яго помач і апавядаць другім людзям Божую навуку. — Але аб гэтым скажам другім разам.

Выхаваўцы, якія адыйшлі ад Бога, даюць у сваіх падручніках прынцыпы трапныя і прыгожыя, але падпіраюць іх прыкладамі недастатковымі, а часам нават проста фальшывымі і шкоднымі. Так у Савецкім Саюзе ставілі праз 30 гадоў прыклад для моладзі Язэпа Сталіна: называлі яго «бацькам» усяго сьвету, нават «сонейкам». А пасьля яго сьмерці выкінулі яго трупа з магілы на пазагуменьні, адабраўшы ўсе тытулы.

На большы для нас стыд і некатарыя беларускія паэты і пісьменнікі запэцкалі свае слаўныя імёны, славячы нягоднага чалавека.

*а. Я. Савіцкі.*

## ПАДЗЯКА

Ужо ад № 85-га «Божым Шляхам» Уладыка Чэслаў Сіповіч і Кіраўнікі школы Сьв. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА зьвяртаюцца да ўсіх СУРОДЗІЧАЎ дапамагчы сабраць грошы на «ФОНД РАЗБУДОВЫ». Мусім прызнацца, што дасюль наш кліч даваў даволі слабое рэха . . .

Аж вось сяньня, дня 7-га студзеня 1965 г., мы атрымалі кароценькі ліст, які тут зьмяшчаем:

«Дарагія,

Пасылаю Вам на разбудову Інтэрнату, але толькі на гэта, а не на другія рэчы. Думаю, што ня вытрымаеце і будзеце дзякаваць. Толькі ў падзяках не хачу, каб была мая фамілія.

Маліціся і за мяне . . . »

Пры гэтым лістку быў уложаны чэк на 2 000 $ (Дьве тысячы даляроў!).

Ў гэтым месцы ДЗЯКУЕМ і абяцаем маліцца за ДАБРАДЗЕЯ, каб БОГ Яму даў усё найлепшае — паводле Свайго вялікага МІЛАСЭРДЗЯ!

Шкада, што ня можам аб'явіць фаміліі!

*а. Язэп Гэрмановіч*

*Вінцук Адважны*

# «Аб кроплі мёду»

**(Армянская байка з XIII стаг.)**

*Дарагім Суродзічам на памятку нязгоды.*

Жыў-быў купец у нашай вёсцы
І меў ён крамку пры дарожцы.
Прышоў у крамку, гэтым знакам, Пастух з сабакам.

— Ці маеш мёд? — Давай!
Ня маеш, дык здароў бывай!
Ёсьць мёд — бяры!
Хоць фунт, хоць два ці тры:
Вось мой тавар —
Мёд чысты як нэктар.

Тут крамнік мёд той налівае,
Пастух збанок свой падстаўляе —
Аж кропалька, як вочка мышкі,
Кап-кап на землю з той гладышкі...
Дастаўшы грошы — ўсё багацьце —
Пастух за мёд заплаце.

Аса, як ведзьма, (каб ты шчэзла!),
Да кроплі мёду лезла. —
А коцік крамніка глядзіць —
Давай асу лавіць! —
Вось ён скрадаецца з-за бочкі —
Бліснулі вочкі...
Аж на катка тут вораг новы —
Сабака пастуховы:
Як закружыліся па хаце —
Катка за горла хваце!
І толькі строс ў зубах малога
І бразнуў на зямлю — ўжо няжывога.

А крамнік бача —
Ледзь ня плача:
— Ах, коцік мой маленькі,
Мой залаценькі, даражэнькі!
І ты, пастух з сабакам — Ваўкалакам...
Пастух і не пасьпеў нат' слова мовіць,
Як крамнік гіру ловіць —
Ад пяруна шыбчэй —
І бац сабацы між вачэй!

Пастух — адважны леў,
Як крыкне: — Як ты сьмеў?!
Сабака — мой прыяцель, друг —
Ты выбіў зь яго дух...

І двойчы крамніка — ў хвіліны дзьве —
Бац-бац тут палкаю па галаве!
Вось крамнік толькі нахіліўся
І на сабаку паваліўся:
Сабака на катку ляжыць,
А коцік вечна сьпіць. —
Зьвяры і чалавек
Зьляглі навек!!!

Пастух — адважны, дый спужаўся —
Назад падаўся. —
За крамніка ўся вёска мсьціла
І пастуха насьмерць прыбіла.

Як паднялася вёска пастухова
І вёска крамніка-купцова,
У гадзіну, як ні ёсьць, благую,
Адна так на другую! —
Дык ад разьні такой
Аж кроў цякла ракой!
Аж да апошняй крошкі
Агнём палалі вёскі!
Загінулі і людзі й хаты, —
Астаўся дзед адзін, стары-гарбаты...

✳

Марнуюць людзі ЗГОДУ
За КРОПЛЮ МЁДУ!

---

## ЖАРТЫ:

У СМАРГОНЯХ

Між п'янымі: — Чаму нашая Беларусь называецца «Шавецкая»?

— Ббачыш — даўней нашыя хадзілі ў лапцях, а цяпер...

— Ага, ага, ведаю! ццяпер і лапцяў няма... і ўсе ббосыя ходзяць.

✳

МЕНСК

Маці паслала дачку купіць у мясным магазыне цялячую галаву і ножкі.

Дачка вярнулася й кажа: «мама, я нічога ня купіла, бо там казалі, што ў іх ножкі яшчэ ёсьць, але ніводнай галавы няма і ня будзе!»

✳

МОРА ПА ПОЛЬСКУ:

С т а т а к ходзіць па моры п а р а й.
М а р ы н а р к а плавае,
Б а л в а н ы на моры бегаюць.
А м а й т к і страляюць...

*Вінцук Адважны*

## НАШ ЧАСАПІС

*(Байка)*

У самай гушчы,
У вялізарнай пушчы,
У старадавным лесе
Зьвяры зыйшліся на кангрэсе.

Ваўкі страшэнна вылі,
Казлы худыя нылі:
Яны, як атэісты,
Былі ўсе пэсымісты.

А зубр магутны як зароў —
Ажно сьцінalася ўсім кроў!
Казаў ён: «Годзе бедаваць —
Давайце часапіс свой будзем выдаваць!»

Адзін-другі рэдактар зьдзёрся,
Трэ' новага шукаць!
Знайшоўся пад рукой мядзьведзь:
З краёў далёкіх ён прыцёрся
І клыпаў ледзь-ня-ледзь. —
«На ладан — кажуць — дыша,
Але ён басьні піша!»

Далі яму магічнае пяро,
Куксач ў рабро,
Сказалі: «Часу не марнуй —
Гаруй,
Працуй,
Працуй!..»

Вось Часапіс, як год прайшоў
Дык чытачоў шукаў — знайшоў.

Працаўнікі жылі надзеяй.
Казалі нашы людзі:
«Памогуць дабрадзеі
І ўсё памысна будзе».

Ратуй нас, Моцны Божа!
І Маці Божа

Нам паможа.
На Новы Год
Нам віншаваў увесь Народ:
Нас хваляць, нас чытаюць
І добрым словам цешуць,
Нам байкі баюць,
На нас сабакі брэшуць...

Рэдактар еў з парожняй міскі —
Чакаем ВАШАЕ падпіскі!

---

ЗЬМЕСТ:

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

РЭДАКЦЫЯ ветліва прыпамінае ДАРАГІМ ЧЫТАЧАМ, што першыя 2-3 нумары «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» былі высыланыя як рэклямныя. Аднак значная частка нашых СУРОДЗІЧАЎ дабраахвотна прыслала аплату, зашто вельмі дзякуем!

Далей просім уважаць наступныя нумары «Божым Шляхам» як *платныя абавязкова зара высылаць нам падпісную плату.*

Грошы просім высылаць або на адрас РЭДАКЦЫІ, або на адрасы нашых КАЛЬПАРТЭРАЎ, як пададзена на вокладцы часапісу. — Хто высылае грошы ў лістох, ведама, крыху рызыкуе, але ангельская почта акуратна аддае лісты цэлыя і наагул грошы тут не прападаюць.

Жадаем упэўніць Чытачоў, што наш часапіс — пры Божай ласцы — будзе выходзіць бяз перапынку.

ДАРАГІМ ЧЫТАЧОМ жадаем ад Госпада Бога ўсяго найлепшага!

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

---

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Згуртав. Белар. Канады: Вельмі дзякуем за пажаданьні і ўзаемна жадаем Вам паводзінаў у грамадзкай працы ў Новым 1965 Годзе. За ахвяру «на друкарскія патрэбы» — 5 $ — ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ!

Сп. Хв. Ш.: 3 $ на «БШл.» атрыманы. Дзякуем!

Сп. Е. К. Нью Ёрк: 5 $ на «БШл.» атрыманы. Дзякуем!

Др. Я. Станкевіч: 6 $ запісаны на «БШл.» Вельмі дзякуем!

М. Ск. Брэнфорд: 10 шыл. атрыманы на «БШл.»

Сп. Б. з Чыкаго: 25 $ за кніжкі атр. Дзякуем за памяць і за супрацу.

Сп. К. М. Нью Ёрк: Выбачце, што мы не маглі памясьціць Вашай адозвы з прычыны спазьненьня. Пасьля яна сталася ўжо неактуальнай. За сьвяточныя — Калядныя і Навагоднія пажаданьні дзякуем.

Студ. П. Т. Ваш артыкул, як бачыце, друкуем і просім пісаць далей.

Сп. Я. Ч. Чыкаго: Ужо мы некалька разоў атрымлівалі ад Вас па 2 $. Выбачце што дасюль ня квітавалі. Абяцаем паправіцца.

Др. П. Г. За 10 $ на «БШл.» вельмі дзякуем! За мілы ліст і за добрыя пажаданьні — таксама.

В. Пав. а. Міхалу Урбановічу ў Марыянапаліс-Коннэктікут рэдакцыя «Божым Шляхам» жадае ўсяго найлепшага ад Госпада Бога — з аказіі Яго 50-годняга ЮБІЛЕЮ. — Дай, Божа, здароўе і памыснасьць на далейшыя СТО ГОД!

Сп. В. і Ч. В. з Чыкаго: За прысланыя 10 $ на «БШл.» надта дзякуем.

Прк.-Канада: 1 £ атрымалі, дзякуем!

І. К. Нью Ёрк: за 12 $ вельмі дзякуем! Прашу яшчэ раз назваць нам тыя фаміліі, якія зложылі гэтыя грошы. Усё запісана на «БШл.»

Сп. Тарэса М. — Францыя: Дзякуем за ліст. Часапіс будзем пасылаць і далей.

*

УВАГА РЭДАКЦЫІ:

Хто прысылае грошы поштай, вельмі просім пры гэтым паведамляць асобным лістом, бо пошта пытаецца аб фамілію высылаючых. І цяпер нехта быў добры выслаць з Ільлінойс (стэйт) значную суму, нам была-б шкода, каб грошы вярнуліся назад!

"Logos„ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14